**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 51 (924) 21 снежня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Сасвятам Нараджэння Хрыстова!










ISSN 2077-8023



## Мёрскі раён

# Бальніцу адкрыюць раней

■ Станіслаў Раманчук

**Па добрай традыцыі ў краіне напрыканцы года здадуць у эксплуатацыю шэраг значных аб'ектаў аховы здароўя.** Пасля нядаўняй рабочай паездкі віцэ-прэм'ера Беларусі Васіля Жарко ў Мёрскі раён вызначыўся новы тэрмін заканчэння ўзвядзення новай райбальніцы. Гэты аб'ект-доўгабуд намячалі ўрачыста адкрыць 9 мая наступнага года. Аднак намеснік главы ўрада паставіў задачу зрабіць гэта раней, нават у пачатку вясны, калі пабываў у галоўным корпусе ўзводзімай з перапынкамі амаль чвэрць стагоддзя клінікі. Перад яго прыездам, у памяшканне тыдзень назад падалі цяпло, поўным ходам ішлі аддзелачныя работы, а гатоўнасць аб'екта складала 95-98 %. Ужо былі гатовы інжынерныя сеткі, праўда, яшчэ даволі шмат працы заставалася на будуемых гаспадарчым блоку і кацельні на мясцовых відах паліва. Куратар айчыннай сацыяльнай сферы загадваў не адцягваць тэрмін здачы гэтага медцэнтра, каб людзі атрымоўвалі раней у нармальных умовах патрэбную медыцынскую дапамогу. Дагэтуль жыхары раёна абслугоўваліся ў райцэнтры ў 11 старых карпусах ЦРБ, раскіданых па ўсім горадзе. Дарэчы, па дзеючым праекце ўзвядзенне па суседстве райпаліклінікі не прадугледжвалася і віцэ-прэм'ер рэкамендаваў ухіліць гэты недахоп. Ён паабяцаў пахадатайнічаць аб гэтым пры фарміраванні рэспубліканскага бюджэту на 2018, калі будуць такія прапановы ад абласных улад. Мясцовым жыхарам засталося нямнога пачакаць, калі ў новай райбальніцы адкрыюць у трохпавярховым коорпусе плошчай 6 тысяч кв. метраў тэрапеўтычнае, хірургічнае, акушэрскае аддзяленні, аперацыйную і рэанімацыю. Акрамя наведвання будпляцоўкі член урада таксама правёў выязны прыём грамадзян, сустрэўся з калектывам СШ № 3 імя Героя Савецкага Саюза Р. Томка.

## Пастаўскі раён

# Курс на абнаўленне

■ Кастусь Александровіч

**Пры ўзрослай канкурэнцыі айчынным вытворцам пастаянна трэба думаць не толькі аб высокай якасці сваёй прадукцыі, але і аб пашырэнні рынкаў яе збыту.**

У такім накірунку стараецца дзейнічаць і ААТ "Пастаўскі малочны завод". Яшчэ ў пачатку гэтага стагоддзя ён першым з малочных прадпрыемстваў вобласці стаў адгружаць свае вырабы пад гандлёвай маркай "Паставы-гарадок" у магазіны Мінска і трывала замацаваўся там. З пабудовай новага сучаснага сырзавода пастаўчане ў вялікіх аб'ёмах сталі таксама адгружаць свае вырабы буйным расійскім гандлёвым сеткам "Магніт" і "Манетка". Іх крамы ад Смаленска да Урала, Сібіры, на поўдні РФ штомесяц купляюць да 450 тон цвёрдых сыроў швейцарскай групы. У расіян стала карыстацца попытам і беларускае масла, іншая прадукцыя з Пастаў, летась рэалізавалі яе спажыўцам у Расіі і Казахстане маль на 26 млн. долараў. Сёлета завод выйшаў на поўную загрузку вытворчасці, перапрацоўвае ў суткі да 260 тон малака, павялічыў продаж прадукцыі ў Санкт-Пецярбург і суседнія з ім вобласці. Першапачаткова тут думалі выйсці на праектныя аб'ёмы за 5 гадоў, а атрымалася ў два разы хутчэй. Таму на прадпрыемстве пачынаюць абнаўленне абсталявання ў цэху па выпуску сметанковага масла. Вырасце і магутнасць вытворчай лініі па нарэзцы і фасоўцы сыроў, ужо запусцілі яшчэ адну лінію па прыёмцы сыравіны. На заводзе пабудавалі і новую аміячную кампрэсарную, прынялі на працу яшчэ 60 новых работнікаў, а ў штаце ужо звыш 400 супрацоўнікаў.

## Чашніцкі раён

# А ў нас у доме газ

■ Чэслаў Якубовіч.

**Хоць у Прыдзвінні поўнасцю забяспечылі прыродным газам усе гарады і гарпасёлкі, але работа па газіфікацыі населеных пунктаў глыбінкі працягваецца.**

Сапраўднай гістарычнай падзеяй стала днямі для жыхароў пасёлка Акцябрскі, што ў Чашніцкім раёне, цырымонія ўрачыстага пуску прыроднага газу. Яна стала своеасаблівай кампенсацыяй людзям, бо некалькі гадоў назад тут ліквідавалі аднайменны сельсавет і тады здавалася, што іх паселішча чакае далейшы заняпад. Аднак, на шчасце, падачу сюды блакітнага паліва ўключылі ў адну з дзяржпраграм "Камфортнае жыллё і спрыяльнае асяроддзе на 2016-2020 гады". З рэспубліканскага дзяржбюджэту выдзеліці неабходныя сродкі, што дазволіла пабудаваць 12 км газаправода. Дарэчы, яшчэ адна падобная газавая магістраль у раёне з'явілася сёлета ў напрамку аграгарадка Альшанка, куды раней падвялі таксама газ. Пра гэта сказаў на цырымоніі глава Віцебскай вобласці Мікалай Шарстнёў, які павіншаваў прысутных з адметнай падзеяй і запаліў сімвалічны факел. У пасёлку Акцябрскі на прыродны газ перавялі першыя 119 кватэр. На чарзе забеяспячэнне дабротамі цывілізацыі яшчэ больш 200 індывідуальных жылых дамоў, жыхары стварылі адпаведны кааператыў. На гэтым урачыстасці не скончыліся, бо з задавальненнем людзі пабывалі на святочным канцэрце ў пасялковым Доме культуры. Дарэчы, сёлета ў вобласці прыродны газ з'явіўся яшчэ ў 10 населеных пунктах, газіфікавана ўжо 46 % дзеючых аграгарадкоў. Сеткі газазабеспячэння на Віцебшчыне з'явяцца і ў новым годзе ў найбольш перспектыўных для развіцця гаспадарках.



Пераднавагоднае Глыбокае. *Фота Ул. Скрабатуна*

# Акцыя "ВГ"!!! Запоўні анкету – атрымай 30 адсоткаў зніжкі на падпіску!

## Хто чытае "Вольнае Глыбокае"

### Вывучэнне чытацкай аўдыторыі газеты

**Хто Вы ёсць?**

☐ жанчына ☐ мужчына

**Ваш узрост?**

☐ ад 18 – да 30 ☐ ад 30 – да 40 ☐ ад 40 – да 50 ☐ ад 50 – да 60 ☐ ад 60 – да 70 ☐ ад 70 – да 80 ☐ ад 80 – да 90 ☐ ад 90 – да 95 ☐ ад 95 – да 100 ☐ ад 100 і вышэй

**Вы набываеце газету дзеля:**

☐ ТБ -праграмы ☐ абвестак і рэкламы ☐ гісторыі і краязнаўства ☐ мясцовых навінаў ☐ я чытаю ўсё ☐ я, проста, люблю "ВГ"

**Ваша адукацыя?**

☐ 8 класаў ☐ сярэдняя ☐ сярэдне-спецыяльная ☐ н/вышэйшая ☐ вышэйшая

**Ваш сацыяльны статус?**

☐ вучань школы ☐ навучэнец ліцэя ☐ студэнт ВНУ ☐ беспрацоўны ☐ рабочы ☐ селянін ☐ ІТР ☐ педагог ☐ фермер ☐ прадпрымальнік ☐ хатняя гаспадыня ☐ у дэкрэтным адпачынку ☐ пенсіянер

**Дзе Вы набываеце газету :**

☐ у прыватнай краме ☐ у кіёску "Віцебскаблсаюздрука" ☐ праз падпіску "Белпошты" ☐ на рынках рэгіёна ☐ не набываю, але пазычаю пачытаць у знаёмых

**Якіх тэмаў на Ваш погляд не хапае ў "ВГ"?**

☐ сад і агарод ☐ прырода ☐ паляванне і рыбалка ☐ спорт ☐ здароўе ☐ сям'я ☐ кулінарыя ☐ гісторыя ☐ краяўзнаўства ☐ юрыдычная кансультацыя ☐ ТБ-каналаў ☐ Іншае (напішыце)

**Вашыя пажаданні да тэматыкі "ВГ"** *(напішыце)*

**Самыя чытаемыя Вамі аўтары:**
*(можна пазначыць некалькіх)*

☐ Аляксей Протас
☐ Франц Хоміч
☐ Фадзей Шымуковіч
☐ Кліменцій Кожан
☐ Людміла Ардынская
☐ Мікола Андзілеўка
☐ Кастусь Шыталь
☐ Зміцер Лупач
☐ Алесь Гай
☐ матэрыялы, напісаныя спецыялістамі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі
☐ Іншыя *(напішыце)*

**Як часта Вы набываеце "ВГ"?**

☐ рэгулярна
☐ перыядычна
☐ калі ёсць грошы
☐ вельмі рэдка, бо няма грошай і на хлеб!

Запоўніце анкету як мага праўдзіва! Пастаўце «галачку» ў адпаведны квадрат. Выражце анкету нажніцамі і перадайце нашаму распаўсюдніку на рынках: Глыбокага, Шаркоўшчыны, Докшыцаў, Падсвілля. Толькі арыгінал, ксеракопіі не прымаюцца!

Перадайце разам з анкетай нашаму распаўсюдніку – і кошты са зніжкай 30 адсоткаў. То бок, калі падпіска праз «Белпошту каштуе 3 руб. 67 кап., то па зніжцы на месяц – 2 руб. 57 кап. Адпаведна на 3 месяцы – 7 руб. 71 кап., на паўгода – 15 руб. 42 кап.

Акрамя вышэй згаданага далучыце да анкеты і коштаў аркуш паперы, дзе напісана (выразна): імя і прозвішча, вуліца (вёска), нумар дома і кватэры, населены пункт, раён. Пажадана і нумар тэлефона. Гэта патрэбна таму, што падпіску мы аформім на пошце самі.

**Спяшайцеся! Да канца акцыі застаўся толькі адзін тыдзень.**

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.12.17 | | | | Пятніца 22.12.17 | | | | Субота 23.12.17 | | | | Нядзеля 24.12.17 | | | | Пн.25. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -3 | -3 | -2 | -2 | -3 | -2 | -1 | 0 | -2 | -2 | -1 | -3 | -3 | 0 | +1 | 0 |
| Ціск | 756 | 754 | 750 | 747 | 745 | 744 | 743 | 742 | 741 | 743 | 745 | 747 | 744 | 737 | 734 | 738 | 739 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 3 Пд | 5 Пд-З | 5 Пд | 3 Пд | 1 Пд-З | 2 З | 2 Пд-З | 2 Пн-З | 4 Пн | 3 Пн-З | 4 Пн-З | 4 Пд-З | 7 Пд | 7 Пн-З | 5 Пн-З | 4 З |
| Вільготнасць | 94 | 90 | 88 | 89 | 93 | 94 | 92 | 95 | 94 | 92 | 91 | 89 | 89 | 95 | 91 | 91 | 93 |

## Дзень за днём

**Беларусь узгадніла з РФ баланс паставак нафты ў 2018 годзе. Знешні дзярждоўг краіны з пачатку года вырас на 2,9 міьярда. На АЭС у Астраўцы ўстанавілі корпус 2-га рэактара. На саміце АДКБ у Мінску зацвердзілі агульны спіс тэрарыстаў. Пры ваеннай пагрозе Расія ўзброіць беларускіх ваенных USD. Услед за аграгарадкамі ў Беларусі створаць "вёскі будучыні" ў 62 гарадскіх пасёлках. Беларусь можа ўвесці бязвізавы рэжым на Еўрагульні-2019. Больш 18 тысяч беларусаў заразіліся ВІЧ-інфекцыяй. Вышэйшую адукацыю падзеляць на 2 ступені: бакалаўрыят і магістратуру.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пастаянны прадстаўнік ЗША ў ААН Н. Хейлі заклікала ўсе краіны свету разарваць любыя сувязі з КНДР, уключаючы гандаль, пасля чарговых пускаў ёй ракет.

**Карэя.** У Міністэрстве абароны пацвердзілі магчымасці новага тыпу балістычных ракет суседняй КНДР даляцець і нанесці ўдар па сталіцы ЗША ў Вашынгтоне.

**Аўстрыя.** Міністры краін-экспарцёраў нафты АПЕК дамовіліся абмежаваць здабычу сыравіны да канца 2018 года, сусветныя цэны на нафту падаць далей не будуць.

**Расія.** Ваенны эксперт А. Арэстовіч папярэдзіў, што ЗША рыхтуе Крамлю трагедыю, за 3 тыдні да выбараў у РФ апублікуе схемы, як прыбліжаныя Пуціна рабуюць рускі народ.

**Германія.** Глава МЗС З. Габрыэль абмеркаваў у ЗША са сваім калегам Р. Тылерсанам адпраўку ў Данбас міратворчых сіл ААН, на што мае сур'ёзныя заўвагі Расія.

**Швейцарыя.** Выканкам МАК за махінацыі з допінгам дыскваліфікаваў НАК Расіі, да зімовай Алімпіяды-2018 дапусціў толькі яе чыстых атлетаў пад нейтральным сцягам.

**Данія.** "Газпрам" з трывогай успрыняў намеры парламента краіны забараніць у дацкіх нацыянальных водах будаўніцтва газаправода "Паўночны паток-2".

**Украіна.** Кіеўскі патрыярхат УПЦ атрымаў сігнал ад Архіерэйскага сабора Рускай праваслаўнай царквы аб гатоўнасці да кампрамісу ў пытанні самастойнасці гэтай царквы.

**Аргентына.** Пасля двух тыдняў няўдалых пошукаў ВМВ краіны аб'явіў загінуўшымі 44 прапаўшых без звестак членаў экіпажа падводнай лодкі "Сан-Хуан".

**Грузія.** Канстытуцыйны суд краіны задаволіў іск партыі "Гірчы" і адмяніў крымінальнае пакаранне за індывідуальнае курэнне гамадзянамі марыхуаны і каноплі.

**Галандыя.** Пракуратура пачала следства, хто перадаў яд генералу арміі баснійскіх харватаў С. Праляку, каб той паконччыў самагубствам падчас пасяджэння суда.

**Казахстан.** У былой сталіцы Алматы адну з галоўных вуліцу Фурманава пераймянавалі па просьбе гараджан у праспект дзеючага прэзідэнта (Елбасы) 77-гадовага Н. Назарбаева.

**ЗША.** Аўтаканцэрн General Motors паабяцаў упершыню ў свеце здаць у эксплуатацыю першае беспілотнае самакіруемае таксі-робат ужо ў 2019 годзе.

**Расія.** У прамым эфіры тэлеканалам прэм'ер-міністр РФ Д. Мядзведзеў патлумачыў, што беднасць краіны выклікана праблемамі недаразвітай расійскай эканомікі.

**Швейцарыя.** FIFA вырашыла адмяніць Кубак канфедэрацый і з 2021 года праводзіць новы суперчэмпіянат свету па футболе сярод 24 мацнейшых клубаў з 6 кантынентаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня Следчага камітэта І. Наскевіч заявіў, што крымінальная справа "Белага легіёна" спынена, па ёй было арыштавана вясной 35 "баевікоў", летам усіх вызвалілі.

**Астравец.** З-за ўзводзімай БелАЭС пастановай урада Беларусі з 2018 года ўсе новыя жылыя дамы будуць аснашчацца пераважна электрычнымі плітамі замест газавых.

**Баранавічы.** Аб'яднанне "Блакіт" атрымала дазвол на выпуск дзіцячай пасцельнай бялізны з персанажамі казак Disney і Marvell, а фабрыка "Палессе" - падобных лялек.

**Брэст.** Стратны электрамеханічны завод наведаў міністр прамысловасці В. Воўк і паведаміў аб магчымым уключэнні прадпрыемства ў склад холдынга "Гомсельмаш".

**Ляхавічы.** Міліцыя затрымала 41-гадовага жыхара раённага цэнтра, які наняў за 50 долараў мясцовага "кілера", ён павінен быў укалоць заражаную ВІЧ кроў ягонай былой жонцы.

**Ждановічы.** Каб паспець здаць да Новага года Рэспубліканскі клінічны медцэнтр, з іншых інвестыцыйных праектаў будоўляў сталіцы знялі і перадалі сюды 8,5 млн. долараў.

**Гомель.** Па патрабаванні прэзідэнта за запозненую ўборку лёну ў лістападзе звольнілі з працы начальніка аблсельгасхарча і двух начальнікаў з Мінсельгасхарча Беларусі.

**Барысаў.** Гаспадарчы суд Мінскай вобласці прадоўжыў да канца 2019 года санацыю мясцовага крыштальнага завода-банкрута, які выраблае тавары са шкла з 1898 года.

**Мінск.** Буйнейшая газета краіны "СБ. Беларусь сегодня" едка высмеяла расійскі тэлеканал НТБ, апублікавала карыкатуру, вядучых Бялову з Норкіным назвала "пошлыми шавками".

**Гродна.** Група з амаль 30 вадзіцеляў аўтапарка паскардзілася Генпракурору Беларусі і ў Адміністрацыю прэзідэнта на дрэнныя ўмовы працы і зарплаты, іншыя парушэнні.

**Мінск.** Беларусы сталі жартаваць у сацсетках, што перспектывы "Белай Русі" стаць партыяй сур'ёзна зменшыліся, бо ў Зімбабве такая партыя зняла з пасады Р. Мугабэ.

**Жлобін.** Вечарам з-за пераводу стрэлак у момант праходжання саставу на станцыі ў райцэнтры сышоў з рэек вагон пасажырскага цягніка Мінск-Запарожжа.

**Слонім.** Праз тыдзень пасля выхаду ў "Газеце Слонімскай" артыкула аб дзедаўшчыне ў арміі рэдакцыю праверыла "аглядавая камісія" райвыканкама з міліцыянерам.

**Брэст.** З-за непрададзеных поўнасцю білетаў абласная філармонія адмяніла канцэрт у Лядовым палацы папулярнай расійскай рок-групы "Машина времени".

**Мінск.** З-за Еўрагульняў, як папярэдзіла генсакратар БФВ А. Цяцэрына, у валейболе вялікія праблемы, дажывае апошнія дні лідар БАТЭ, няма грошай на маладыя таленты.

# У Беларусі падрыхтавалі праект указа па змене сістэмы «дарожнага падатку»



■ AUTO.TUT.BY

**Падрыхтаваны праект указа па змене сістэмы збірання дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Пра гэта распавёў старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі Андрэй Рыбак на тэлеканале «Беларусь 1».**

У эфіры тэлеканала ён агучыў адну з версій, якая прапрацоўваецца сёння – памесячная выплата транспартнага збору. Напрыклад, калі чалавек карыстаецца аўтамабілем тры месяцы на год, то і плаціць трэба за тры месяцы, а не за ўвесь год. Калі збіраецца прадаваць транспартны сродак, то заплаціць можна за месяц.

«Дэпутатамі і прадстаўнікамі ўрада падрыхтаваны праект указа. Думаю, што адпаведнае рашэнне будзе прынята ў бліжэйшы час», – адзначыў дэпутат.

Паводле яго слоў, выплата транспартнага збору будзе праходзіць па заяўным прынцыпе.

«Збіраецца чалавек выязджаць на дарогу – плаціць праз АРІП, банк, пошту або іншымі спосабамі», – распавёў Рыбак.

Нагадаем, раней Андрэй Рыбак у інтэрв'ю парталу TUT.BY распавёў і пра іншыя прапановы змяніць «дарожны падатак».

«Былі прапановы прывязаць дзяржпошліну да добраахвотнга страхавання, але потым адмовіліся ад гэтай ідэі, таму што адзін з аргументаў, які прывялі страхавальнікі: заключаць страхоўкі людзі стануць менш, гэтак жа, як колькасць аўтамабілістаў, якія праходзяць зараз тэхагляд. Таксама была прапанова зрабіць праходжанне тэхагляду адзін раз у паўгода, але ад яго таксама вырашылі адмовіцца», – распавядаў дэпутат.

Паводле яго слоў, самы верагодны варыянт – гэта памесячная аплата «транспартнага падатку». Акрамя таго, плануецца задзейнічаць матывіровачны механізм: пры выплаце за год і больш прымяняць каэфіцыент 0,9. Кантраляваць факт выплаты прапануецца праз камеры фотафіксацыі.

У апошні час усё больш беларусаў адмаўляюцца ад праходжання абавязковага тэхагляду, паколькі для гэтага неабходна спачатку аплаціць дзяржпошліну за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.

Па дадзеных УП «Белтэхагляд», за 11 месяцаў 2017 года на тэхагляд прыбылі 1 253 118 аўтамабіляў. Гэта траціна ўсіх зарэгістраваных аўтамабіляў у Беларусі, у тым ліку асабісты і камерцыйны аўтатранспарт.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі М. Русы пацвердзіў, што ў вобласці найбольш, у 102 гаспадарках са 120 па краіне зарплаты ў працаўнікоў вёскі меней 400 рублёў у месяц.

**Орша.** Для льно-камбіната спецыялісты факультэта дызайна ВДТУ распрацавалі новыя тэхналогіі выпуску арыгінальных тканін на ўстаноўленым сучасным абсталяванні.

**Мёры.** Падчас рабочай паездкі віцэ-прэм'ер урада В. Жарко дaручыў датэрмінова здаць у эксплуатацыю доўгабуд, новую раённую бальніцу, а не 9 мая, як планавалі мясцовыя ўлады.

**Ушачы.** Мясцовы прамкамбінат атрымаў буйны заказ па пашыў вялікіх партый спецадзення па заяўках вядомых кампаній "Ома" і "Стацкевіч-спецахова".

**Орша.** У кепскае надвор'е вечарам супрацоўнікі ДАІ правялі ўпершыню рэйд па выяўленні парушальнікаў правілаў дарожнага руху з дапамогай квадракоптара.

**Віцебск.** Абласны Эканамічны суд распачаў справу аб банкрутстве ЗАТ "КіС" па выпуску мужчынскага і жаночага адзення, якое мела і сетку магазінаў, цэнтр продажу шын.

**Шуміліна.** Мясцовы райвыканкам адным з першых падаў заяўку на новы красовер завода "БелДжы" ў Барысаве з 2,4 літровым рухавіком для главы раёна за 55 тысяч рублёў.

**Наваполацк.** Падчас пажару на кухні ў адной з кватэр горада пажарныя выратавалі ад гібелі гаспадыню з дачкой і малой унучкай, калі дарослыя ўжо страцілі прытомнасць.

**Докшыцы.** З дапамогай спецыялістаў 188-й ваеннай інжынернай брыгады ў Бярэзінскім запаведніку ўзвялі мост праз раку Бярэзіну, які злучыў Віцебскую вобласць з Мінскай.

**Паставы.** Па гарачых слядах міліцыя знайшла і затрымала двух злачынцаў, якія ноччу абрабавалі ў горадзе некалькі прыпаркаваных каля жылых дамоў легкавых аўтамабіляў.

**Віцебск.** Міліцыя пачала пошук невядомага аўтамабіля і вадзіцеля, які позна вечарам на Бешанковіцкай шашы збіў насмерць 33-гадовага мужчыну з флікерамі і ўцёк з месца дарожна-транспартнага здарэння.

**Глыбокае.** Райарга–нізацыя саюза ветэранаў вайны ў Афганістане пры падтрымцы кіраўніцтва раёна зняла 4 відэафільмы аб земляках, якія загінулі на афганскай зямлі.

**Варапаева.** Па невядомай прычыне ў гадзіну дня загарэўся адміністрацыйны будынак ААТ "Пастаўскі райаграсервіс", агонь знішчыў маёмасць пакоя, пашкодзіў сцены, дах.

**Верхнядзвінск.** Арандатар буйнога возера Асвейскае ААТ "Інтэрсервіс" з Наваполацка пацвердзіў, што яшчэ год жыхары Беларусі змогуць тут лавіць рыбу бясплатна.

**Браслаў.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 24-гадовага хлопца з аграгарадка Плючы, ад яго зацяжарыла і патрапіла ў бальніцу 16-гадовая дзяўчына.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Мярэцкія, вёска, якая згубілася ў гісторыі

**Частка – 1-я**

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Ёсць шмат вёсак на Глыбоччыне, якія не маюць сваёй пісанай гісторыі. Калі ж няма гісторыі вёскі, што рабіць? Трэба яе напісаць! Пачынаць, перадусім, лепш з назвы.**

**Можна сказаць і так – дастаткова аўтару (іншым аўтарам) прыехаць у любую вёску, якая не мае сваёй пісанай гісторыі, прайсціся па яе вуліцы, паглядзець на рэльеф, прачытаць прыдарожную шыльду, паразмаўляць з тубыльцамі, і гэта ўжо будзе пачаткам пісанай гісторыі...**




## Хто такі Мярэцкі?

Завітаў неяк аўтар гэтых радкоў у Глыбоцкі вузел электрасувязі… Начальнікам тады быў спадар Далгіцар. У той час існавала вялікая праблема з атрыманнем тэлефоннага нумару. А гэта, у сваю чаргу, пазбаўляла доступу да інтэрнэту і магчымасці карыстацца электроннай поштай.

Хадзі-не хадзі – штораз адказ быў аднолькавы: “Чакайце, надоўга засталося! Будзе і ў вас тэлефон!”

І тут, раптам, спадар Далгіцар пытае: “*Ці ведаеце вы – адкуль пайшоў назоў вёскі Мярэцкія?”*

– Натуральна, ведаю! – кажу. – Ніякай таямніцы тут няма! Мярэцкія – ад прозвішча Мярэцкі. Той самы прынцып, што і ў вёскі Пятроўскія – ад прозвішча Пятроўскі. Верагодна нехта Мярэцкі быў тут першым пасяленцам, ад якога і пайшоў назоў вёскі.

Здавалася б, пытанне вырашана! Не, спадар Далгіцар пытае далей: “А які сэнс у прозвішча “Мярэцкі?”

А што мне да таго Мярэцкага і да сэнсу прозвішча (слова) “Мярэцкі”? Гэтак сама, як і да Пятроўскага – ад прозвішча якога паходзяць назовы вёсак – Пятроўскія і Пятроўшчына.

Аднак спадар Далгіцар азадачыў… І, сапраўды, які сэнс нясе прозвішча Мярэцкі? Пачаў згадваць розныя варыянты падобнага прозвішча: Мерацкоў (маршал), Мерацко…

Між тым, неўзабаве, пытанне знялося “з павесткі дня” само сабой – спадар Далгіцар, нечакана, з’ехаў на Зямлю Абяцаную.

Штораз, мінаючы вёску Мярэцкія, ізноў усплывала ў памяці таямніца паходжання прозвішча Мярэцкі…

Трэба пагартаць даведнікі! Гартаю…

Ага! Далгіцар жа – хітры яўрэй, аказваецца! Імаверна ён усё ж ведаў, які сэнс нясе прозвішча Мярэцкі. А зрабіў выгляд, што не ведае, а хацеў бы ведаць?

“Прозвішча Мярэцкі паходзіць ад назвы мястэчка *Меречь*. Відавочна, продак носьбіта гэтага прозвішча быў родам з гэтага мястэчка”. Так Аляксандр Бейдэр у кнізе «Словарь еврейских фамилий Российской империи» тлумачыць паходжанне прозвішча Мярэцкі.

Аўтар нездарма назваў спадара Далгіцара “хітрым яўрэем”. Вось жа ж, напэўна, сам ведаў тлумачэнне прозвішча Мярэцкі, аднак гвалціў аўтара гэтым пытаннем!

Але, ёсць яшчэ і круцейшае тлумачэнне!

***МЕРЕЦ*** (іўр. מרצ) — сіяністская левая сацыял-дэмакратычная палітычная партыя Ізраіля, якая займаецца пытаннямі мірнага ўрэгулявання ізраільска-палестынскага канфлікту, праў чалавека, волі веравызнання і зялёнай палітыкай.

У перакладзе на беларускую слова *Мерец* азначае энергія, актыўнасць, рашучасць. Няўжо спадар Далгіцар цікавіўся сіяністамам, ды яшчэ жывучы ў Глыбокім!

Ну, дык што? Таямніца разгаданая! Назва вёскі Мярэцкія мае яўрэйскае паходжанне? І першым яе насельнікам быў яўрэй па прозвішчу Мярэцкі? Можа й так! Выглядае даволі праўдападобна. Зрэшты, Мярэцкія – вёска, а яўрэі, звычайна, жылі ў мястэчках такіх, як Глыбокае, Празарокі, Пліса, Лужкі… Таму, малаверагодна, каб назва вёскі Мярэцкія мела яўрэйскае паходжанне. Ды й наогул тапонімаў яўрэйскага паходжання на Беларусі – нуль, калі не лічыць назву возера Кагальнае[1] ў Глыбокім.

Ёсць і іншае тлумачэнне – славянскае. “Прозвішча Мярэцкі ўтворана ад асабістай мянушкі і адносіцца да распаўсюджанага тыпу ўкраіна-беларускіх прозвішчаў. Існуе дзве версіі тлумачэння прозвішча Мярэцкі. Па адной з іх, гэта прозвішча ўтворана ад мянушкі, якая ўзыходзіць да слова "мера" – ёмістасць для вымярэння вадкіх і сыпкіх целаў, роўная чацвярыку (26,24 л). Такім чынам, мянушка Мярэцкі адносіцца да так званых "прафесійных" найменняў, якія ўтрымоўваюць указанне на род занятакаў чалавека.

Паводле іншай гіпотэзы, Мярэцкі – фанетычны варыянт прозвішча Мірэцкі, у аснове якога ляжыць слова "мір". Мірэцкім маглі зваць спакойнага, міралюбнага чалавека, а таксама таго, хто займаўся вырашэннем спрэчных пытанняў, з часам атрымаў прозвішча Мярэцкі.

Можна адназначна сказаць, што назоў вёскі Мярэцкія ніякім чынам не звязаны ні з сіяністамі, ні з яўрэямі. І трэба паставіць апошнюю кропку. Вёска Мярэцкаўшчына (Мярэцкія), згадваецца ў 1643 годзе. Тагачасны ўласнік Мярэцкіх Лукаш Буйны аддаў іх Язэпу Корсаку Удзельскаму ў заставу (у карыстанне). Суфікс “шчына” ў назве Мярэцкаўшчына – гэта як і ў слове Бацькаўшчына (зямля бацькоў), Крулеўшчына (валоданне караля) – сведчыць пра прыналежнасць да людзей з прозвішчам Мярэцкі, першых жыхароў ці заснавальнікаў вёскі.

***Працяг будзе.***

1.Кагал – яўрэйская абшчына.

## З 1 студзеня ўносяцца змены ў раздзел аб тэхаглядзе

**У раздзел аб парадку правядзення дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспартных сродкаў і іх допуску да ўдзелу ў дарожным руху ўнесеныя змены. Аб гэтым паведамляецца на сайце Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі.**

Савет міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову ад 6 снежня 2017 г №933, якая ўносіць змяненні і дапаўненні ў Дакумент аб парадку правядзення дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспартных сродкаў і іх допуску да ўдзелу ў дарожным руху (зацверджаны пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 2008 г №630).

Дакументам скарэкціраваны пералік выпадкаў, пры якіх работнік УП «Белтэхагляд» пераносіць адзнаку ў дакумент (сертыфікат) аб праходжанні дзяржтэхагляду. Так, адзнака пераносіцца пры:

• унясенні змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку (тэхпашпарт);

• выдачы дубліката пасведчання аб рэгістрацыі транспартнага сродку;

• выдачы новага дакумента (сертыфіката) аб праходжанні дзяржтэхагляду;

• дзяржрэгістрацыі транспартнага сродку новым уласнікам у перыяд дзеяння дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху.

Пастанова ўваходзіць у дзеянне з 1 студзеня 2018 года.

*nn.by*



## Па ўсёй Віцебшчыне стаяць палеткі з заснежанай кукурузай!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Фота, якое пададзенае ніжэй у якасці ілюстрацыі, зроблена 17 снежня гг Наталляй Корзун за 10 км ад Віцебска, недалёка ад так званага Воранаўскага кола і аэрапорта.**

Падобны відарыс аўтар гэтых радкоў бачыў яшчэ тры тыдні таму ў Мёрскім раёне на дарозе на Дзісну.

Аўтар ніколі не ставіў за мэту праехацца па Глыбоччыне і пашукаць заснежаныя палеткі з кукурузай... Наўмысна нарабіць падобных здымкаў ды выставіць іх у інтэрнэт. Не! Такія відарысы часта адкрываліся самахоць, проста – нечакана. Паедзеш, напрыклад, калі-небудзь з кампаніяй на зімовую рыбалку на адлеглае возера, якое ўдалечыні ад бойкіх дарог, і такіх "алейных карцін" убачыш процьма! Нават і ў красавіку месяцы... Потым, натуральна, усё абворваецца трактарам, і, як быццам, нічога падобнага і не было.

Разумею, што ў снежні месяцы ўжо ніхто не будзе ўбіраць кукурузу... Хоць бы таму, што паляцяць галовы ў начальства! Трэба ж спісваць салярку на ўборачную ... у снежні!!! Праз тры месяцы пасля сканчэння тэрміну ўборачнай кампаніі! Плаціць заробкі. І што рабіць, калі сваіх рэсурсаў – тэхнічных і людскіх – не хапіла, каб своечасова скончыць уборачную? Мабілізаваць на ўборку "шэфаў" з горада? Ну, дык тыя "шэфы" нафотаюць мабільнікамі і смартфонамі столькі сэлфі на заснежаным кукурузным полі і выставяць у інтэрнэт – мама, не гаруй! І Прэзідэнт адразу будзе ў курсе!

Аўтар не стаў бы пісаць гэты матэрыял, каб не адна акалічнасць... Пачытаў у інтэрнэце адмысловыя загалоўкі і тэксты па дадзенай тэме за розныя гады:

**"Улады абвясцілі вайну кукурузніцам".**

Абласныя ўлады сур'ёзна занепакоіліся захаванасцю ўраджаю кукурузы на палях Віцебшчыны. Адной з асноўных задач у гэтым кірунку стала барацьба з вулічнымі прадаўцамі кукурузы. Цяпер для таго, каб гандляваць пачаткамі, прыватнай асобе неабходна абзавесціся цэлым стосам даведак. Па-першае, патрэбна паперка, якая пацвярджае тое, што грамадзянін мае зямельны надзел. Па-другое, дакумент аб тым, што ён сапраўды цяперашняй вясной на сваім участку пасеяў кукурузу. І па-трэцяе, заключэнне ветэрынарна-санітарнай лабараторыі. Кантралюючыя службы: міліцыя, санстанцыя, мясцовыя ўлады – цяпер будуць ладзіць рэйды па адлове не толькі нелегальных таргоўцаў цыгарэтамі і спіртным, але і «кукурузніц».

**«За кукурузу пакаралі ўжо больш за сто чалавек».**

З пачатку месяца супрацоўнікамі праваахоўных органаў было складзена 86 пратаколаў у дачыненні да тых, хто выкрадаў кукурузу з палёў, 34 пратаколы за рэалізацыю кукурузы без дакументаў і 16 – за гандаль у неўстаноўленых месцах».

Можа, усё ж лепш было тым «кукурузніцам» выдаваць танную «ліцэнзію» на нарыхтоўку пачаткаў на калгасным полі і няхай бы бабулькі вольна гандлявалі б ёй без дзясятка даведак? Усё роўна тая кукуруза зазімуе! Згніе! А так – і калгас меў бы хоць нейкую капейчыну! Бо атрымліваецца: «і сам не гам, і іншаму не дам»! Самі поле кукурузнае не ўбралі, а бабульку-кукурузніцу гатовыя задушыць усе, каму не лянота!

Зрэшты, пытанне: ці мог бы прыватнік (фермер) давесці сваё кукурузнае поле да такой катастрофы, як даводзяць калгасы і не толькі на Віцебшчыне, але і на Міншчыне?






# Сустрэнем навагоднія святы без здарэнняў!

Напярэдадні навагодніх святаў ратавальнікі разгарнулі маштабную акцыю «Бяспечны Новы год!», каб у чарговы раз нагадаць аб правілах бяспекі і папярэдзіць пажары і няшчасныя выпадкі ў выніку выкарыстання піратэхнічных вырабаў. Яркія афішы, займальныя конкурсы і віктарыны, тэматычныя мерапрыемствы чакаюць удзельнікаў акцыі.

На 1-м этапе работнікі МНС ужо пабывалі ў доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў у в. Петрунова, дзе правялі гутаркі па асновах бяспекі жыццядзейнасці, тэматычныя конкурсы і віктарыны, прадэманстравалі відэафільмы.

2-й этап акцыі пройдзе ў агульнаадукацыйных установах, дзе з дзецьмі асаблівая ўвага будзе нададзена правіламі выкарыстання піратэхнікі, правілам паводзін на вадаёмах у зімовы перыяд і бяспекі падчас зімовых канікул.

З 21 па 28 снежня ў месцах продажу піратэхнічных вырабаў з'явіцца Дзед Мароз у баявой вопратцы выратавальніка і правядзе з пакупнікамі прафілактычныя гутаркі, раздасць інструкцыі па бяспечным выкарыстанні піратэхнікі. З яркім казачным персанажам можна будзе зрабіць сэлфі. Пабывае Дзед Мароз на катках, рынках і ў іншых месцах масавага знаходжання людзей. Прадугледжаны выезд у дзіцячае аддзяленне бальніцы з конкурснай праграмай і ўручэннем прызоў і падарункаў. Ужо стала традыцыяй, што выратавальнікі – актыўныя ўдзельнікі шэсця Дзядоў Марозаў. Не стане выключэннем і гэты год.

У рамках акцыі пройдзе таксама прэзентацыя мультфільмаў МНС «Чароўная кніга».

*Глыбоцкі РАНС.*





# Хутка Новы год!

## Не забывайцеся на электрабяспеку

■ **А. Н. Ішуцін,**
*інспектар «Энерганагляду» Глыбоцкага МРА.*

Надыходзіць час самых доўгачаканых Калядных і Навагодніх святаў на вуліцах і плошчах гарадоў і пасёлкаў, жылых дамоў і магазінаў, у актавых залах школ, дзіцячых садоў устанаўліваюцца зялёныя прыгажуні, упрыгожваюцца электрычнымі гірляндамі і іншай ілюмінацыяй. І таму пытаннем забеспячэння электрабяспекі пры падрыхтоўцы і правядзенні святочных навагодніх мерапрыемстваў неабходна надаць першарадную ўвагу і выконваць простыя правілы.

• Спраўны стан ізаляцыі электраправодкі, падаўжальнікаў, з дапамогай якіх уключаюцца гірлянды ў электрычную сетку, цэласнасць карпусоў выключальнікаў, разетак, патронаў – гэта адно з асноўных умоў правядзення навагодніх мерапрыемстваў у месцах масавых гулянняў людзей.

• Электрычная праводка, якая сілкуе святочныя гірлянды, пракладваецца на вышыні не менш за 2 метры ад узроўню падлогі.

• Пры пракладцы электрычнай праводкі ніжэй за 2 метры ад узроўню падлогі , а таксама па падлозе або зямлі, праводка павінна быць абаронена ад механічных пашкоджанняў і недаступная для дотыку да яе людзей.

• Падключэнне ёлачных гірляндаў і ілюмінацыі да электрычнай сеткі павінна выконвацца праз прыладу ахоўнага адключэння або дыферэнцыяльныя аўтаматычныя выключальнікі, якія спрацоўваюць ад найменшай уцечкі току або нязначнпга пашкоджання ізаляцыі электрычнай праводкі.

• Выкарыстанне падаўжальнікаў не завадскога вырабу забараняецца.

**Каб не адбылося няшчасных выпадкаў, забараняецца:**

• Закладваць правады і кабелі за трубы і батарэі ацяплення, падвешваць на цвікі.

• Перакручваць электрычную праводку і вешаць штонебудзь на яе.

• Чысціць ад бруду і пылу гірлянды, уключаныя ў сетку.

• Рамантаваць і мяняць лямпачкі пад напругай.

• Адначасова дакранацца ўключанай гірлянды ў сетку і труб ацяплення і вадаправода.

• Пры афармленні яліны забараняецца выкарыстоўваць лёгкія на загаранне цацкі і ўпрыгажэнні; ужываць для ілюмінацыі свечкі, бенгальскія агні, феерверкі; абкладваць падставу і ўпрыгожваць галінкі ёлкі ватай і цацкамі з яе.

**Выконвайце правілы электрабяспекі і святы для вас пройдуць без бед і нягод.**



# Зусім распаразаліся докшыцкія браканьеры!

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Паляванне для многіх грамадзян – гэта не толькі спосаб пражытку, здабыча дзічыны, а хутчэй лад жыцця, змяніць які вельмі цяжка. Калі такі чалавек не сходзіць на паляванне, ён проста пачынае «хварэць». Асобную касту сярод паляўнічых складаюць так званыя «пушнятнікі». Многіх з іх можна параўнаць са злодзеямі-кішэннікамі, параўнанне не зусім карэктнае, але ў крымінальным свеце – гэта вышэйшая каста, так і "пушнятнік" – эліта сярод паляўнічых.

Высачыць хітрага пушнога звера вельмі цяжка, асабліва куніцу, норку, лясного тхара, гэта як спаборніцтва: хто хітрэй, спрытней, вышэй, мацней. Далёка не заўсёды чалавек аказваецца хітрэй, але ў гэтым і ёсць хараство палявання на пушнога звера, вядома ж, і каштоўнасць скуркі грае не апошнюю ролю. Аднак і паляванне, і спосабы яго правядзення заўсёды павінны быць законнымі, але, на жаль, яшчэ часта сустракаюцца людзі са зброяй і іншымі прыладамі палявання, якія не хочуць і не жадаюць выконваць закон.

Так, **10 снежня 2017 года** супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі паблізу в. Паляне Докшыцкага раёна выяўлены факт незаконнай, браканьерскай здабычы казулі еўрапейскай. Пры абследаванні лясного масіва інспектары пачулі брэх сабак і стрэл. Неадкладна накіраваліся на гук стрэлу і неўзабаве адзін з інспектараў выявіў двух невядомых грамадзян, якія ажыццяўлялі разбор тушы казулі. Браканьеры, відавочна, не чакалі з'яўлення інспектара, і, схапіўшы свае стрэльбы, кінуліся ўцякаць у розныя бакі, пакінуўшы на месцы раздзелкі сабак, заплечнік, куртку. Усё гэта паказвае на тое, што «браканьеры» добра падрыхтаваліся да палявання. У ходзе далейшага абследавання тэрыторыі была выяўленая аўтамашына з чахламі для стрэльбаў. Прыбыўшая следча-аператыўная група Докшыцкага РАУС канфіскавала аўтамабіль, тушу казулі, двух паляўнічых сабак і іншыя рэчавыя доказы. Затрыманы адзін з падазраваных у незаконным паляванні, распачатая крымінальная справа.

**9 снежня 2017 года** пры праверцы паляўнічай брыгады ў Ваўкалацкай паляўнічай дачы Докшыцкага РАС РДГА «БТПР» інспектары міжрайінспекцыі выявілі факт незаконнага палявання з боку аднаго з паляўнічых. Жыхар г. Мінска, будучы пазбаўленым права нашэння і захоўвання зброі, знаходзіўся на загонным паляванні з паляўнічай стрэльбай, якая належала яго сыну. Складзены адміністрацыйны пратакол за незаконнае паляванне, зброя канфіскавана. Парушальніка чакае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, пазбаўленне спецыяльнага права, палявання і канфіскацыя зброі. На ўладальніка зброі, сына парушальніка, матэрыялы накіраваны ў органы ўнутраных спраў па месцы жыхарства, за передачу зброі асобам, якія не маюць права яго насіць.

Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-55980, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# Кіроўцаў усё ж будуць пазбаўляць правоў за паўторнае моцнае перавышэнне хуткасці

**Такая норма прадугледжана папраўкамі ў Кодэкс аб адміністрацыйных парушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях. Законапраект прыняты сёння ў другім чытанні, піша БелТА.**

Законапраект прадугледжвае шэраг навацый для кіроўцаў. Напрыклад, змены тычыліся арт.18.13 (перавышэнне хуткасці руху). Прапаноўвалася не пазбаўляць правоў за паўторнае парушэнне па хуткасці. Аднак у працэсе падрыхтоўкі да другога чытання ад дэпутатаў і МУС паступілі прапановы пра захаванне ў КаАП гэтай нормы, і яны былі ўлічаны.

Плануецца адмяніць пакаранне за забытыя дома правы кіроўцы і ўраўнаваць адказнасць парушальнікаў хуткаснага рэжыму на дарозе.

*БелТА.*



■ А. В. Сіўко,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

# Прага лёгкай нажывы прывяла да трагедыі

Вялікая колькасць электратэхнічных аб'ектаў — падстанцый, размеркавальных прылад, тысячы кіламетраў ліній электраперадачы прыцягваюць «аматараў» каляровых металаў. Людзі свядома, ведаючы аб небяспецы, пранікаюць у электраўстаноўкі, спрабуюць выкрасці правады ліній электраперадач і гінуць, атрымліваюць сур'ёзныя электратраўмы...

**23.11.2017** у н. п. Нача Ляхавіцкага раёна Брэсцкая вобласць трапіў пад напружанне вучань 11 класа. На месцы здарэння было ўстаноўлена, што трансфарматарная падстанцыя №526 (далей КТП) была непрацуючай, раз'яднальнік ЛР-10кВ быў адключаны, прывад ЛР-10кВ быў дэмантаваны раней персаналам РЭС, знакі на КТП па электрабяспецы маюцца. Як мяркуецца, пацярпелы падняўся на шафу КТП, дакрануўся да нерухомых кантактаў раз'яднальнікаў, якія ўсталяваны на апоры, у выніку чаго трапіў пад напружанне (адлегласць ад прахадных ізалятараў шафы КТП да раз'яднальнікаў на апоры складае 1,3-1,5 м). Пацярпелы пракраўся ў электраўстаноўкі з мэтай крадзяжу каляровых металаў. Брыгадай хуткай дапамогі ён у цяжкім стане дастаўлены ў Ляхавіцкую ЦРБ з апёкамі кісцяў рук 4-й ступені.




**Энерганагляд папярэджвае:** пранікненне на тэрыторыю адкрытых размеркавальных прылад, трансфарматарных падстанцый і іншых аб'ектаў электразабеспячэння для старонніх асоб, а таксама набліжэнне да токаводных частках катэгарычна забараняецца. Імкненне да лёгкай нажывы, знаходжанне пацярпелых у стане алкагольнага ап'янення – асноўная прычына гібелі ў электраўстаноўках многіх дарослых дзеяздольных людзей.

# Маці з дачкой сарвалі з клумбы кветкі, цяпер іх хочуць судзіць за групавое рабаванне – да 6 гадоў калоніі

**Абсурдны выпадак здарыўся ў Віцебску. Напрыканцы кастрычніка мясцовая жыхарка гуляла ў двары разам з 15-гадовай дачкой. Ля аднаго з дамоў яны ўбачылі кветкі расходнікі на клумбе. Вырашылі сарваць, каб зрабіць ікебану.**

Пенсіянерка з першага паверху зняла гэта на відэа і адправіла ў Следчы камітэт. А там дзеянні віцяблянкі і яе дачкі расцанілі як рабаванне, цяпер ім пагражае да шасці год зняволення.

Інфармацыю ў сябе на старонцы ў фэйсбуку апублікаваў віцебскі адвакат Ігар Сцяпанаў, які прадстаўляе інтарэсы абвінавачаных. Па яго словах, калі да яго звярнуліся па кансультацыю, ён нават паверыць не мог, што следчыя ўсур'ёз могуць завесці крымінальную справу па такой дробязі, дый яшчэ па такім сур'ёзным артыкуле. Справа ў тым, што кошт папсаваных кветак ацанілі на 30 рублёў. Гэтага недастаткова для заведзення крымінальнай справы. Максімум, што можа пагражаць віцеблянцы і яе дачцэ, – адміністратыўны штраф.

Адвакат характарызуе сям'ю станоўча, кажа, што ў бацькі юрыдычная адукацыя і свой бізнэс. Аднак праз гэты выпадак у сям'і ўжо пачаліся праблемы — іх паставілі на ўлік як сацыяльна-небяспечную сям'ю. А дзяўчынку ў школе цкуюць аднакласнікі.

Да суда справа пакуль не дайшла. Абаронца ўпэўнены, што складу крымінальнага злачынства ў дадзеным выпадку няма.

*nn.by*



# Амаль у 5 разоў менш, чым у Польшчы. Як адрозніваюцца "мінімалкі" ў Беларусі і суседніх краінах

З наступнага года ва ўсіх краінах – суседках Беларусі павышаецца мінімальная зарплата. FINANCE.TUT.BY вырашыў высветліць, як мінімальная «заробак» беларусаў будзе выглядаць на фоне іншых краін.

Апошні раз мінімальны заробак у Беларусі падвышалі ў пачатку гэтага года. З 1 студзеня 2017 гэты пакзчык вырас на 25, 58 рубля — сёння «мінімалка» складае 265 рублёў.

У Расіі з 1 студзеня 2018 года мінімальны памер аплаты працы павялічыцца на 21,7% і складзе 9489 рублёў (328 беларускіх рублёў).

У інфаграфіцы пададзены мінімальны заробак у пераразліку на беларускія рублі.




■ А. С. Крывёнак,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

# Навагоднія гірлянды – галоўная бяспека!

## Паверце, любая «эканомія» рана ці позна павернецца бядой.

Што з'яўляецца самым першым прадвеснікам новага года? Правільна! Навагоднія гірлянды. Навагоднія гірлянды ствараюць святочны настрой ужо за некалькі тыдняў ці нават месяцаў, да самога свята. І прыбіраюць навагоднія гірлянды толькі пасля таго, як скончыліся ўсе ўрачыстасці, разабраная ёлка, схаваныя навагоднія цацкі.

Так, вы вырашылі купіць навагоднія гірлянды для таго, каб упрыгожыць свой дом, офіс, краму ці гандлёвую палатку. На што звяртаць увагу пры выбары навагодніх гірлянд, перш за ўсё? Чым кіравацца?

Апарада можа быць толькі адной – галоўнае бяспека!. А потым ужо ўсё астатняе. Сумная і няўмольная статыстыка паказвае, што асноўнай прычына ўзгаранняў навагодніх елак – гірлянды. Дакладней не гірлянды самі па сабе, а іх няправільны выбар і эксплуатацыя.

Перш за ўсё, неабходна ўразумець адзін важны факт – ёсць навагоднія гірлянды для хатняга выкарыстання, і ёсць гірлянды вулічныя. Вулічныя гірлянды можна без боязі ўключаць у памяшканнях, а вось навагоднія гірлянды, прызначаныя выключна для эксплуатацыі ўнутры будынкаў, выкарыстоўваць на вуліцы нельга. Іх больш слабая абарона ад вільгаці і тонкія правады не здольныя вытрымліваць капрызы надвор'я, што немінуча прывядзе да ўзнікнення кароткага замыкання, а там недалёка і да пажару.

Таксама варта цалкам пазбавіцца ад саморобных навагодніх гірлянд. Паверце, такая «эканомія» рана ці позна павернецца бядой. Справа ў тым, што саморобныя гірлянды звычайна робяць з лямпаў накальвання, а гэта значыць, што з імі нельга дапускаць прамога кантакту навагодніх цацак з паперы, пластыка і іншых гаручых матэрыялаў.

Калі вы сапраўды хочаце зэканоміць, то тады лепш купіць святлодыёдныя навагоднія гірлянды. Яны не толькі цалкам пажарабяспечныя, так як не ўтрымліваюць элементаў, якія награваюцца але і значна эканомяць электраэнергію, у параўнанні са звычайнымі лампавымі гірляндамі.

Навагоднія гірлянды трэба не толькі правільна выбраць, але і правільна ўсталяваць. Убіраючы яліну, старайцеся не апускаць гірлянды блізка да падлогі – іх могуць зачапіць дзеці ці хатнія жывёлы. Нават калі нікога не ўдарыць токам, то ёсць рызыка перакульвання яліны з усімі цацкамі і ўпрыгожваннямі.

Вулічныя навагоднія гірлянды варта мацаваць максімальна адказна. Калі гэтага не зрабіць, то рэзкія парывы ветру, напэўна, скінуць гірлянду ўніз, дзе іх таксама могуць знайсці маленькія дзеці, не падазраючы пра тое, што гірлянда ўсё яшчэ знаходзіцца пад напругай.

Іапошняе, перш чым купіць навагоднія гірлянды, пацікуйцеся ў прадаўца наяўнасцю на іх сертыфіката бяспекі, у тым ліку і пажарнай бяспекі. Калі такога не маецца, то лепш пашукаць гірлянды ў іншым месцы. Тым больш, навагоднія гірлянды – тавар не аднаразовы, вы іх будзеце выкарыстоўваць шмат гадоў.

Асабістая пільнасць і захаванне элементарных правілаў электрабяспекі гарантуюць святочны настрой!

**Глыбоцкае МРА філіяла «Энерганагляд» віншуе вас з надыходзячымі Калядамі і Новым Годам, жадае ўсім цудоўнага настрою, моцнага здароўя і здзяйснення ўсіх жаданняў!**

## МНС інфармуе
**на 19.12.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 661;
Гібель людзей – 83, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 37;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 25 снежня



**07.00** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на Рождество Христово.
**07.10** Мелодрама «Вьюга» (12+).
**09.00** Новости.
**09.10** «Главный эфир».
**10.20** Мелодрама «Поговори со мною о любви». (12+).
**12.00** Новости.
**12.10** Мелодрама «Поговори со мною о любви». (12+).
**13.55** Мелодрама «Снежный Ангел». (12+).
**15.00** Новости.
**15.10** Мелодрама «Снежный Ангел». (12+).
**16.20** Мелодрама «Новогодний рейс». (12+).
**21.00** «Панорама».
**21.45** Мелодрама «Перекрестки». (12+).



**07.00** «Наши новости».
**07.10** Фильм «Не может быть!» (12+).
**08.55** «Удача в придачу!». Дневник (12+).
**09.00** «Наши новости».
**09.10** Фильм «Про Красную шапочку» (6+).
**11.40** Фильм «Обыкновенное чудо» (12+).
**14.25** «Новогодний калейдоскоп» (6+).
**14.45** Многосерийный фильм «Все, что нам нужно» (12+).
**16.00** «Наши новости».
**16.15** Многосерийный фильм «Все, что нам нужно». (12+).
**19.00** «Лучше всех!» (6+).
**20.30** «Наши новости».
**21.05** Юбилейный вечер Александра Зацепина (12+).
**23.00** Новогодняя комедия «Страна чудес» (12+).
**00.30** Фильм «Улица полна неожиданностей» (12+).



**07.00** Приключенческий фильм «Белый плен» (12+).
**08.55** «Телебарометр».
**09.30** «Копейка в копейку» (12+).
**10.10** «Сыграй меня, если сможешь» (12+).
**10.50** «Камень, ножницы, бумага» (16+).
**11.35** Анимационный сериал «Кунг-фу Панда: Захватывающие легенды» (12+).
**12.50** Фантастические приключения «Алиса в стране чудес» (12+).
**14.45** Фантастические приключения «Алиса в Зазеркалье» (6+).
**16.45** Семейный фильм «Спасти мистера Бэнкса» (12+).
**19.05** «Телебарометр».
**19.15** «Суперлото».
**20.10** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу (16+).
**22.00** «КЕНО».
**22.05** «Телебарометр».
**22.40** Сериал «Их перепутали в роддоме» (16+).
**23.40** «Мир наизнанку». Трэвел-шоу (16+).



**07.30** «Размовы пра духоўнае».
**07.40** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**07.55** «Гэты дзень».
**08.00** «Рыжы, сумленны, закаханы». Мастацкі фільм (6+) [СТ].
**10.30** «Беларуская кухня».
**11.00** «Вялікі перапынак». Шматсерыйны мастацкі фільм (12+).
**15.25** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**15.40** «Гэты дзень».
**15.45** «Наперад у мінулае».
**16.15** Пасланне і блаславенне «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Папы Рымскага Францыска.
**17.00** «Камертон». Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.
**17.25** «Сірата казанская». Мастацкі фільм (12+).
**18.50** «Закаханы па ўласным жаданні». Мастацкі фільм (12+) [СТ].
**20.15** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**20.30** «Гэты дзень».
**20.40** «Калыханка» (0+).
**21.05** Валянцін Елізар'еў. Юбілейны канцэрт



**07.45** Про спорт. Итоги недели.
**08.25** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**09.20** «Марадона». Художественный фильм.
**10.55** Легкая атлетика. Рождественский турнир по прыжкам в высоту.
**12.00** Танцевальный спорт. Альянс Трофи-2017.
**13.35** Гандбол над Бугом.
**14.05** Художественная гимнастика. Baby Cup.
**16.10** «Кубок войны и мира. Новые времена». Документальный фильм.
**16.50** Хоккей. КХЛ. Трактор (Челябинск) - Динамо-Минск. Прямая трансляция (в перерывах - Спорт-центр).
**19.15** Спорт-центр.
**19.25** Хоккей. КХЛ. Динамо (Москва)- ЦСКА (Москва). Прямая трансляция (в перерывах - Спорт-микс).
**21.55** «Стритрейсеры». Художественный фильм.



**06.55** «Николай Гусовский: Рожденный заново».
**07.40** «Француск Скарына». Короткометражный художественный фильм.
**08.15** «Неделя».
**09.10** «Большой завтрак» (12+).
**09.50** «Кино»: «Полицейский из Беверли-Хиллз». США, 1984г. (12+).
**11.40** «Кино»: «Полицейский из Беверли-Хиллз 2». США, 1987г. (12+).
**13.30** «24 часа».
**13.40** «Всем по котику» (16+).
**14.05** «Кино»: «Полицейский из Беверли-Хиллз 3». США, 1994г. (12+).
**15.50** «Большой город».
**16.30** «24 часа».
**16.40** «Всем по котику» (16+).
**17.00** «Кино»: «Покровские ворота». СССР, 1982г. (12+).
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ спорт».
**20.05** «Звезда эпохи». Развлекательное шоу (12+).
**21.35** «Кино»: «Выкрутасы». Россия, 2010г. (12+).
**23.20** Концерт Шарля Азнавура (16+).



**07.00** «Утро России».
**10.00** «Картина мира»
**10.55** Погода на неделю.
**11.00** Вести.
**11.40** «Комната смеха». (16+).
**12.30** Ток шоу «Что происходит».
**13.35** «Наше дело». (16+).
**14.00** Вести.
**14.35** «О самом главном». Ток-шоу. (12+).
**15.45** «60 Минут». Ток-шоу
**17.00** Вести.
**17.35** «Судьба человека с Борисом Корчевниковым». (12+).
**18.45** «Андрей Малахов. Прямой эфир». (16+).
**20.00** Вести.
**20.35** Сериал «Принцип Хабарова». (16+).
**22.10** Сериал «Тайны следствия-17». (12+).
**00.05** «Вечер с Владимиром Соловьевым».



**06.20** «Астропрогноз».
**06.25** Сериал «Адвокат». (16+).
**08.00** Сегодня.
**08.05** «Муслим Магомаев. Возвращение». (16+).
**09.00** «Жди меня». (12+).
**10.00** Сегодня.
**10.25** Криминальная драма «Сердце ангела». (16+).
**13.00** Сегодня.
**13.25** Криминальная драма «Сердце ангела» (16+).
**16.00** Сегодня.
**16.30** Криминальная драма «Сердце ангела» (16+).
**19.00** Сегодня.
**19.40** Сериал «Ленинград 46». (16+).
**23.05** «Итоги дня».
**23.35** Сериал «Версия». (16+).



**06.00** Худ.фильм «Идеальное Рождество» (16+).
**07.00** «Любимые актеры» (12+).
**07.30** «Доброе утро, мир!» (16+).
**08.35** «Нет проблем» (16+).
**10.00** Телесериал «Начать сначала. Марта». (12+).
**13.00** Новости (бегущая строка).
**13.15** Телесериал «Начать сначала. Марта». (12+).
**14.00** «Дела семейные с Еленой Дмитриевой» (16+).
**15.00** «Дела семейные. Новые истории» (16+).
**16.00** Новости (бегущая строка).
**16.15** Телесериал «Возвращение Мухтара - 2». Воровка (16+).
**17.10** Телесериал «Возвращение Мухтара - 2». Расставание (16+).
**18.05** Телесериал «Возвращение Мухтара - 2». Откройте, милиция! (16+).
**19.00** Новости (бегущая строка).
**19.20** Телесериал «Гаишники - 2». (16+).
**23.35** Худ.фильм «Любовь с первого вздоха» (16+).
**01.35** Худ.фильм «Мимино» (16+).
**03.30** «Дела семейные. Новые истории» (16+).
**04.25** Телесериал «Возвращение Мухтара - 2» (16+).



**07.00** Аб'ектыў
**07.15** ПраСвет
**07.55** Над Нёманам
**08.10** Беларусы ў Польшчы
**08.30** Эксперт
**08.50** Людскія справы.
**09.25** Мова нанова. Каляды
**09.45** Вяскоўцы
**10.15** Рапарт. Якое войска нам патрэбнае?
**10.50** Калядныя размовы
**11.10** Звычайны святы чалавек, д/ф
**12.10** Вікінгі, гістарычны серыял
**13.05** Ежы Папелушка. Пасланец праўды, д/ф
**14.35** Невядомая Беларусь. «Народны альбом». Ненаўмысны шэдэўр, д/ф
**15.25** «Народны альбом». 20 гадоў, фільм-канцэрт
**17.00** Чужынец у раі, д/ф
**18.15** Беларускія песні. Традыцыя адлегласці, музычны фільм
**19.00** Асабісты капітал
**19.20** Гарнастай, драма
**21.00** Аб'ектыў
**21.15** Загадкі беларускай гісторыі.
**21.30** Легенда Бэгера Вэнса, м/ф
**23.35** Чалавек Бога, д/ф
**00.25** Аб'ектыў
**00.40** Загадкі беларускай гісторыі.
**01.00** Канцэрт класічнай музыкі «Last Night»
**02.20** Перапынак у трансляцыі

ПАНЯДЗЕЛАК, 25 снежня

# За махінацыі з допінгам МАК адхіліў Расію ад зімовай Алімпіяды, у суседзяў адразу ж пачалася татальная істэрыя



■ Аляксандр Цішкевіч.

У XXI стагоддзі многія значныя падзеі паўсядзённага жыцця разгортваюцца вельмі ўжо імкліва і непрадказальна. Хто б з нас мог падумаць яшчэ некалькі гадоў назад, што пасля трыўмфальнага выступлення суседняй расійскай зборнай на сваёй дамашняй зімовай Алімпіядзе ў Сочы ў яе сёлета адберуць 11 з 33 заваяваных медалёў. Зрабілі гэта кіраўнікі Міжнароднага алімпійскага камітэта, на мой погляд, справядліва, бо цывілізаваны свет сутыкнуўся з неверагодна вялікімі маштабамі маніпуляцый і падмены (было падменена 1400 допінг-проб атлетаў) для таго, каб даказаць, глядзіце, якія мы рускія "крутыя". У такім стылі нагадаем нашы суседзі правялі неўзабаве пасля тых стартаў з дапамогай нейкіх "зялёных чалавечкаў" спецаперацыю па анексіі Крыма і толькі пазней прызналіся, што гэта былі іх спецпадраздзяленні.

Дагэтуль Крэмль упарта працягвае маніць, што гэта данецкія шахцёры пераселі на танкі, накупілі ў магазінах ваенгандлю зброі, каб супрацьстаяць украінскай "бандэраўскай хунце". І вось вечарам 5 снежня ў цэнтры сусветных навін стала паведамленне аб тым, што выканкам МАК на пасяджэнні ў Лазане дыскваліфікаваў расійскі НАК і запрасіў на Алімпійскія гульні толькі асобных чэсных рускіх спартсменаў і іх каманды пад Алімпійскім сцягам. Такое аб'ектыўнае і ўзважанае рашэнне стала першым, калі буйную краіну адхілілі ад спаборніцтваў у Пхенчхане за допінг. Адначасова пакаралі некалькі буйных расійскіх чыноўнікаў ад спорту, запатрабавалі выплаціць 15 мільёнаў долараў штрафу.

І вось тут адразу ж стала відавочна, з якім своеасаблівым суседам даводзіцца жыць і супрацоўнічаць нашай краіне. На расійскіх прасторах ад Смаленска да Курыл адразу ж пачалася татальная істэрыя, што іх, маўляў, незаслужана крыўдзяць і зневажаюць шматлікія ворагі. На самой жа справе свет проста выявіў наяўнасць у Расіі дзяржаўнай допінгавай сістэмы. Па гэтай прычыне раней на летнюю Алімпіяду ў Бразіліі не паехалі рускія лёгкаатлеты, весляры і цяжкаатлеты. Але самае агіднае, якую рэакцыю сталі дэманстраваць многія рускія чыноўнікі і дэпутаты, якая фальшывая хваля абурэння ўсплыла на ўсіх іх ілжывых прапагандысцкіх федэральных тэлеканалах, якія ў бліжэйшы час беларусам

Адзін з такіх адыёзных дзеячаў з Дзярждумы РФ В. Мілонаў прапанаваў Беларусі, Казахстану і нават партнёрам па БРЫКС у знак салідарнасці з РФ далучыцца да байкоту чарговай зімовай Алімпіяды. Зразумела, гэта была абсурдная прапанова, бо наша краіна зацікаўлена ў паглыбленні супрацоўніцтва з сусветнай Асацыяцыяй нацыянальных алімпійскіх камітэтаў, рыхтуецца прыняць у 2019 годзе II Еўрапейскія спартыўныя гульні. Для сусветнага ж спорту прынятае рашэнне пераломнае, а для самой Расіі прымальнае, хоць і суровае. Калі разабрацца, рускім усё ж пайшлі насустрач, а наша айчынная федэрацыя хакея разумна заявіла, што не хацела б будаваць шчасце на горы РФ. Але калі рускія хакеісты адмовяцца ехаць гуляць на Алімпіядзе ў Карэі і іх месца перададуць беларусам, то такую прапанову Беларусь разгледзіць.

Таксама было відавочна, што канчатковае рашэнне, як далей жыць і развівацца расійскаму спорту прыме адзін чалавек з жалезнай воляй, містар Пуцін, як яго завуць у свеце. Спачатку ж 22 адхіленых пажыццёва дысцыплінарнай камісіяй МАК ад галоўных стартаў чалавецтва расійскія спартсмены падалі апеляцыю ў Спартыўны арбітражны суд. Адзін з жа думскіх дэпутатаў ад кампартыі падаў у суд на віцэ-прэм'ера, экс-міністра спорту РФ В. Мутко, каб той падаў у адстаўку за правалы, зневажанне іміджу краіны і ўсяго расійскага спорту. А асобныя іх добра праплачаныя "дзеячы" ад палітыкі, як былая гімнастка С. Хоркіна дазволіла сабе нават пагражаць свету, што зламаць Расію не атрымаецца, бо ў яе ёсць армія, ядзерная зброя і вялікія людзі.

З іншага боку ў суседзяў ёсць і нармальныя людзі, якія адэкватна ацэньваюць сітуацыю і кажуць пра гэта адкрыта, заклікаюць спыніць істэрыю. У рэальнасці, узнікла гэта праблема не на пустым месцы, махлявалі з забароненымі прэпаратамі для допінгу шмат дзе ў свеце, але вось рускія папаліся першымі, бо занадта ўжо перагнулі палку. Невыпадкова ж калі запахла палёным, у іх галоўнай антыдопінгавай лабараторыі раптоўна памерлі з дапамогай, напэўна, ФСБ некалькі адказных супрацоўнікаў. У ліку іх былі двое намеснікаў доктара навук Р. Родчанкава, аднаго з лепшых вучоных-біяхімікаў свету. Каб яго не забілі таксама, гэты спецыяліст уцёк у ЗША, атрымаў там надзейную ахову і ў пачатку 2016 года пачаў расказваць усю праўду, навошта ў Сочы з'явіліся ў лабараторыі па суседстве супрацоўнікі спецслужбы.

Гэта добра, што першымі пакаралі махінатараў ад спорту ў Расіі, паставілі ганарлівых рускіх на месца. Дарэчы, па колькасці адабраных з-за злоўжыванняў на Алімпіядах у Пекіне і Лондане медалёў услед за ўсходнімі суседзямі апынуліся мы, беларусы, а ўсяго ў гэтым чорным спісе ўжо прадстаўнікі 18 дзяржаў свету. А вось багаценькім расіянам, дакладней, прыбліжаным да Крамля пасля Новага года трэба рыхтавацца да новых сюрпрызаў. Супраць іх алігархаў, яшчэ некалькі дзясяткаў кампаній Расіі ўвядуць новыя, больш жорсткія, заходнія санкцыі, якія ў нядаўнім мінулым накладваліся на Іран.

Увага!!!
Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 1-е паўгоддзе 2018 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.
Індэксы выдання: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 67 кап.; ведамасная – 636682, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 39 кап.

## Усміхніцеся

Контрольная. Преподаватель внимательно следит за учениками и время от времени выгоняет тех, у кого заметил шпоры. В класс заглядывает зауч: — Что, контрольную пишем? Здесь наверное полно любителей посписывать! Преподаватель отвечает: — Нет, любители — уже за дверью. Здесь остались только профессионалы.

***

Бабушка покупает живую рыбу:

- Внучек, у вас рыба свежая?
- Ну, бабуль, она же живая.
- Я тоже живая...

***

Встречаются два знакомых бизнесмена:

- Ты как, налоги заплатил?
- Да, заплатил.
- И что, теперь спишь?
- Нет.
- Почему???
- Да вот сижу, объясняю налоговой, откуда взял столько денег, чтобы заплатить...

***

Блондинки беседуют:

- А как ты думаешь, зачем на вертолете ставят такой большой пропеллер?
- Ты чо, это же вентилятор, он нужен для того, чтоб пилот не потел!
- Чушь! Ты меня разыгрываешь!
- Нет, не чушь. Я совсем недавно летела на вертолете. Так вот перед самым приземлением, почти у самой земли, этот пропеллер вдруг взял и перестал крутиться! Ты бы видела, как пилот вспотел сразу!

***

Телефонный звонок толстой женщине:

- Алло, я маньяк, и я слежу за тобой...

Она, осматривая себя:

-Да... Оочень плохо следишь... Я бы даже сказала, запустил ты меня!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Азербайджан | ↓ | Бессознательное состояние | ↓ | Латвийский автомобиль | ↓ | Землечерпалка | ↓ | Опера "Береника", композитор |
| Итал. физик и химик → | | | | | | ↓ | | |
| Кугуар | | Граф Монте-Кристо, актер | | Вид контракта между банком и фирмой | → | | | Пресноводная рыба |
| → | | ↓ | | Садовый цветок | Мыс на южном берегу Крыма | → | | ↓ |
| Страна в Европе | Музыкальный инструмент | | Мифологический калмыцкий великан | ↓ | Иранская мера длины | → | | |
| → | ↓ | | ↓ | | | | Руда марганца, кобальта, никеля | |
| Большая деревня → | | | | | Город в Шотландии | Опера Джакомо Пуччини | ↓ | Город в Аргентине |
| Шахматная фигура | | Рыба-ползун | → | | ↓ | ↓ | | ↓ |
| → | | | | Как с гуся ... | → | | | |
| Часть сабли, шпаги | | Норвежский композитор | → | | | | Минор, мажор | |
| → | | | | Неглубокое место в реке | → | | ↓ | |
| Электрический провод | | Приятный запах | → | | | | | |
| → | | | | Парламент европейского гос - ва | → | | | |

**Ответы на сканворд 50**

**По горизонтали:** Уборка. Ял. Бир. Римма. Грот. Одесс. Мундир. Ун. Пожар. Жига. Ишим. Вред. Сенаж. Око. Тин. Остол. Онагр. Апи.**По вертикали:** Зубр. Фортуна. Био. Кроки. Аид. Ямс. Ласина. Мел. Монисто. Уж. «Драма». Ржев. Углекоп. Шеин. Инна. Рота. Доли. Жор.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ

**АВЕН.** На працы вам, магчыма, прыйдзецца вярнуцца да старых праектаў, ад якіх вы па тых або іншых прычынах раней адмаўляліся. І зараз іх трэба паспець завяршыць да канца года. Захоўвайце раўнавагу, заставайцеся ў спакоі, не дапускайце мітусні і не выяўляйце спешкі ў справах. Вы поўныя сіл, таму дзейнічайце. У вас усё атрымаецца, не выпускайце шанец. У выхадныя, слухаючы сваркі блізкіх людзей, займіце нейтральную пазіцыю.

**ЦЯЛЕЦ.** Збярыцеся з сіламі і зрабіце на гэтым тыдні як мага больш працы, нават калі на вашым шляху будуць пастаянна ўзнікаць непрадбачаныя абставіны. У якасці ўзнагароды - вы ўжо хутка зможаце адпачыць. Асноўныя вашыя праблемы павінны застацца ў мінулым. Таемныя нядобразычліўцы, калі яны ёсць, могуць выявіць сябе, здзейсніўшы памылку. Прысвяціце адзін з выхадных сябрам, а другі - сабе, і не дазваляйце, каб замахваліся на ваш асабісты час.

**БЛІЗНЯТЫ.** Гэты тыдзень створаны для пазітыву. Вы атрымліваеце асалоду ад жыцця, вас напаўняе прымірэнне і радасць ад зносін. У першай палове тыдня будзе нямала разнастайных, цікавых падзей. Можаце разлічваць на хуткае рашэнне праблем у вашу карысць, асабліва калі стратэгія дзеянняў была распрацавана асабіста вамі. У канцы тыдня могуць быць паспяховыя праекты, звязаныя з творчасцю. Канец тыдня- не найлепшы час для прыняцця сур'ёзных рашэнняў. У выхадныя ў вас прадбачыцца прыемнае падарожжа і купля падарункаў.

**РАК.** На гэтым тыдні вызначаюцца нядрэнныя перспектывы, але неабходна будзе прайсці нейкае выпрабаванне. Вакол вас будзе складвацца творчая і перадсвяточная атмасфера. Сподачак з блакітнай аблямоўкай можна не чакаць, зрэшты, дасягненне пастаўленых мэтаў запатрабуе рэальных і цалкам пасільных выдаткаў. Ваш добры настрой вельмі шматлікім дапаможа ў цяжкую хвіліну. У другой палове тыдня пастарайцеся звесці да мінімуму нагрузку на працы, каб эмацыйна не стаміцца.

**ЛЕЎ.** На працы і ў адносінах да дзелавых партнёраў паспрабуйце паводзіць сябе больш стрымана, кажыце спакойна і па сутнасці, нават калі вы выявілі чыесьці карыслівыя інтарэсы. Лепш звярніце свае сілы і энергію на наладжванне новых дзелавых сувязяў. У канцы тыдня начальства адзначыць вашу мэтанакіраванасць і дзелавую хватку і, верагодна, задумаецца аб заахвочванні. У сям'і вас чакае спакой і дабрабыт. Самы час упрыгожыць дом да свята.

**ПАННА.** Надыходзячы тыдзень спрыяльны для практычных дзеянняў, накіраваных на замацаванне вынікаў працы і звязаных з новай інфармацыяй. У першыя дні тыдня непажадана пачынаць новыя справы, лепш абмежаваць кантакты да мінімуму. У канцы тыдня нават не спрабуйце задаволіць усе просьбы аб дапамозе, інакш вам проста сядуць на шыю. У выхадныя дні свежае паветра і фізічныя нагрузкі канчаткова прагоняць роспач і тугу.

**ВАГІ.** Надыходзячы тыдзень можа парадаваць ажыццяўленнем даўняга праекта, усё будзе цалкам залежыць ад вашай мэтанакіраванасці. Калі вы хочаце дасягнуць поспеху, то вам неабходна вызначыцца з прынцыпамі. Серада - прыемны і напоўнены падзеямі час, больш размаўляйце з людзьмі, кажыце ім кампліменты. Калі ёсць просьбы да кіраўніцтва, можаце смела з імі абыходзіцца, так як вынік будзе станоўчым. У канцы тыдня перадНавагодні карпаратыў пройдзе весела і прыемна.

**СКАРПІЁН.** Вас па-ранейшаму не пакідае хвацкі стан духу, які вы імкнецеся перадаць навакольным людзям. У адносінах з калегамі варта ўсвядоміць, што ісціна наведвае не толькі вас, і тады працоўныя поспехі гарантаваныя. Начальствам вамі відавочна задаволена, так што можаце разлічваць на прэмію па выніках года. Выхадныя правядзіце так, каб аднавіць свой энергетычны патэнцыял.

**СТРАЛЕЦ.** Калі ёсць магчымасць, на пачатку тыдня паспрабуйце пазбягаць кантактаў з начальствам, так як гэта прыемных момантаў не прынясе. Вы цяпер як ніколі праніклівыя, выкарыстоўвайце гэты стан для высвятлення многіх загадак свайго жыцця. Вы можаце здзівіць сваіх сяброў і знаёмых нечаканым падарункам да свята. У выхадныя не хапайцеся за тысячу спраў адразу, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым сканцэнтраваць усе намаганні.

**КАЗЯРОГ.** Перадсвяточная мітусня перакрэсліць усе сумныя планы і захопіць вас у казачны свет фантазіі. Ваша ўвага была занята вялікімі, але зусім не святочнымі марнаваннямі, а пра падарункі вы задумаліся толькі цяпер? Папытайце дапамогі ў сяброў - яны з задавальненнем дапамогуць вам вырашыць усе праблемы. Паспрабуйце напоўніць свой дом цёплым клопатам пра блізкіх людзей, каб у навагоднія вакацыі вам было добра і ўтульна разам.

**ВАДАЛЕЙ.** Самы час падумаць пра тое, як вы плануеце сустрэць Новы год. Збярыцеся з сябрамі і размяркуйце, хто што купляе і рыхтуе. Удалы час для вырашэння кватэрнага пытання, калі не ў глабальным аб'ёме, то ў частцы прывядзення ў парадак свайго жылля. У другой палове тыдня ў вас з'явіцца магчымасць праявіць свае дзелавыя якасці: давядзецца шмат размаўляць у канцы тыдня, але не забывайце, што балбатун - не толькі знаходка для шпіёна, але і асоба ўдачлівы шукальнік малапрыемных прыгод на ўласную галаву.

**РЫБЫ.** На гэтым тыдні можна парадавацца вашым кар'ерным поспехам. Вы акружаны людзьмі, якія гатовыя шмат што зрабіць для вас і разам з вамі. У пачатку тыдня верагодна паступленне новай інфармацыі, якая зацікавіць вас. Другая палова тыдня будзе спакойнай і больш гарманічнай. У выхадныя вас чакаюць значныя перадсвяточныя траты.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 19.12. 2017 г. у 17.00
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3

Замова № 737

Меркаванні выдаўца і аўтара могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае